

# ЗША. ГІСТОРЫЯ

**1492, 12 кастрычніка** – Хрыстафор Калюмб прыбывае зь Гішпаніі на выспу Сан-Сальвадор на Багамах. Эўрапейцы шануюць яго як першаадкрывальніка Амэрыкі.

**1607** – Каланізатары засноўваюць першае ў Амэрыцы ангельскае паселішча ў Джэймзтаўне, Вірґінія.

**1620** – Дамова "Мэйфлаўэ" утварае волю большасьці ўрад у паселішчы Плімут, Масачусэтс.

**1636** – У Кэмбрыджы, Масачусэтс, заснаваны першы ў Амэрыцы каледж – Гарвард.

**1754** – Сямігадовая вайна (вядомая таксама як Францускай й Індзейская вайна) пачынаецца паміж Францыяй і Брытаніяй. Па заканчэньні вайны Францыя аддала брытанцам Канаду, Вялікія азёры і верхні дол ракі Місісіпі.

**1774, 5 верасьня** – У Філядэльфіі, Пэнсільванія, распачаў сваю працу Першы кантынэнтальны кангрэс, каб "параіцца наконт кепскага стану ў калёніях".

**1775, 19 красавіка** – У Лексінгтоне, Масачусэтс, прагучалі першыя стрэлы амэрыканскай Вайны за незалежнасьць ад Брытаніі.

**1776, 4 ліпеня** – 13 амэрыканскіх калёніяў падпісваюць Дэклярацыю Незалежнасьці.

**1781, 19 кастрычніка** – Брытанскае войска капітулюе ў Ёрктаўне, Вірґінія.

**1783, 3 верасьня** – Брытанія і Злучаныя Штаты падпісваюць Парыскую мірную дамову, у якой прызнаецца незалежнасьць Амэрыкі. Новая дзяржава распасьціраецца ад Каналы да Флёрыды, і ад Атлянтычнага акіяну да ракі Місісіпі.

**1787, 25 траўня** – Канстытуцыйны Канвэнт зьбіраецца ў Філядэльфіі з мэтаю перагляду Артыкулаў аб Канфэдэрацыі – дамовы паміж штатамі, якою на той час кіравалася новая незалежная дзяржава. 17 верасьня дэлегаты прымаюць новую Канстытуцыю.

**1789, 30 красавіка** – Джордж Вашынгтан прымае прысягу ў якасьці першага прэзыдэнта Злучаных Штатаў.

**1791** – Біль аб правах – 10 паправак дадаюцца да Канстытуцыі ЗША з мэтаю абараніць правы асобы.

**1800** – Фэдэральная сталіца перамяшчаецца зь месца часовага знаходжаньня Філядэльфіі ў Вашынгтан, Акруга Калюмбія.

**1803** – Вярхоўны Суд па справе Марбэры супраць Мэдзісона зацьвярджае сваё права аб'яўляць законы антыканстытуцыйнымі.

* * – Выкуп у Францыі тэрыторыі Луізіяны падвойвае кантынэнтальныя землі ЗША.

**1812-14** – Злучаныя Штаты і Брытанія змагаюцца супраць адно аднаго ў вайне 1812г. У жніўні 1814г. брытанцы спальваюць Капітолій і Белы Дом. Гэта падштурхоўвае вялікую колькасьць амэрыканскіх добраахвотнікаў далучыцца да вайсковай службы, каб дапамагчы спыніць наступ брытанцаў.

**1818** – Злучаныя Штаты і Брытанія дамаўляюцца аб неўмацаванай мяжы паміж Канадай і ЗША.

**1820** – Кангрэс прымае "Кампраміс па Місуры". Штат Мэн уваходзіць у Зьвяз у якасьці вольнага штату. У Місуры нявольніцтва дазволенае, але яно забароненае на захадзе ад ракі Місісіпі й на поўначы ад 36° 30' паўночнай шыраты.

**1823** – Дактрына Манро адстойвае правы на супрацiў у выпадку будучай каланізацыі амэрыканскіх рэспублік эўрапейскімі дзяржавамі.

**1830** – Кангрэс прымае Закон аб перасяленьні індзейцаў, які дазваляе ўраду перасяляць карэнныя індзейскія плямёны з усходніх штатаў на малазаселеныя землі на захадзе ад ракі Місісіпі.



**1844** – Сэмюэль Ф.Б. Морзэ дасылае першае тэлеграфнае паведамленьне з Вашынгтана, Акруга Калюмбія, у Балтымор, Мэрылэнд.

**1846** – Пачынаецца Мэксіканская вайна паміж Злучанымі Штатамі і Мэксікай. У выніку заключанага ў 1848г. пагадненьня вайна была скончаная. ЗША атрымалі велізарныя зямельныя абшары ад Тэхаса да Ціхага акіяну й на поўнач да Арэгону.

**1854** – Закон "Канзас-Нэбраска" скасоўвае "Кампраміс па Місуры" і прадастаўляе права самім каляністам вырашаць праблему нявольніцтва на тэрыторыях.

**1857** – Згодна з рашэньнем Вярхоўнага Суда па справы чорнаскурага Дрэда Скота, Кангрэс ня мае права забараняць нявольніцтва на тэрыторыях, а нявольнікі ня могуць быць грамадзянамі.

**1860** – Аўраам Лінкальн абраны 16-м прэзыдэнтам ЗША.

* * – 20 сьнежня Паўднёвая Кэраляйна, да якой у хуткім часе далучыліся пяць іншых паўднёвых штатаў, выйшла са Зьвязу ў адказ на абраньне прэзыдэнтам Лінкальна, які выступаў рэзка супраць распаўсюджваньня нявольніцтва на заходніх тэрыторыях. Гэтыя шэсьць паўднёвых штатаў ствараюць Канфэдэратыўныя Штаты Амэрыкі. Потым да іх з мэтаю стварыць Канфэдэрацыю ўжо з 11-ці штатаў далучаюцца яшчэ пяць.

**1861, 12 красавіка** – У форце Самтэр, Паўднёвая Кэраляйна, прагучалі першыя стрэлы па асновах Зьвязу: у Злучаных Штатах пачынаецца Грамадзянская вайна.

**1863, 1 студзеня** – Прэзыдэнт Лінкальн выдае Праклямацыю аб вызваленьні нявольнікаў, якая даруе ім вольнасьць на тэрыторыі канфэдэратаў.

**1865, 9 красавіка** – Грамадзянская вайна заканчваецца прыняцьцем камандуючым сіламі Зьвязу генэралам Улісам С. Грантам капітуляцыі генэрала канфэдэратаў Робэрта І. Лі ў будынку суда горада Апаматакс, Вірґінія.

* * – 14 красавіка падчас наведваньня тэатру ў Вашынгтане, Акруга Калюмбія, сьмяротна паранены прэзыдэнт Лінкальн. Наступнай раніцай ён памірае.

* * – 13-я папраўка да Канстытуцыі забараняе нявольніцтва і кабалу.

**1867** – Тэрыторыя Аляскі выкупленая ў Расеі.

**1868** – 14-я папраўка забараняе штатам пазбаўляць роўных правоў любога грамадзяніна.

**1869** – Завершаная пабудова першай трансканытынэнтальнай чыгункі: у Прамантары Пойнце, Юта, лінія Цэнтральнай ціхаакіянскай чыгункі, якую вялі з захаду, састыкоўваецца зь лініяй Зьвязавай ціхаакіянскай чыгункі, пракладзенай з усходу.

**1870** – 15-я папраўка забараняе пазбаўляць выбарчых правоў на падставе расы ці колеру скуры.

**1876** – Аляксандар Г. Бэл вынаходзіць тэлефон.

**1879** – Томас А. Эдзісан вынаходзіць лямпу напальваньня.

**1892** – У Нью-Ёрку адкрываецца эміграцкі цэнтар Эліс Айлэнд, які перастае існаваць у 1954г.

**1896** – Вярхоўны Суд па справе Плэсі супраць Фэргусана ўхваляе расавую сэгрэгацыю ў адпаведнасьці з дактрынай "раз'яднаныя, але роўныя".

**1898** – Гішпана-амэрыканская вайна была аб'яўленая ў красавіку і скончылася ў жніўні. Мірная дамова, падпісаная Гішпаніяй у сьнежні, гарантуе незалежнасьць Кубы і перадае Злучаным Штатам Філіпіны, Пуэрта Рыка і Гуам.

**1903** – Злучаныя Штаты і Панама падпісваюць пагадненьне аб будаўніцтве Панамскага каналу.

* * – Орвіл і Вілбур Райты каля мястэчка Кіці Хоўк, Паўночная Кэраляйна, робяць першы пасьпяховы палёт на цяжэйшым за паветра маторным аэраплане.

**1908** – Генры Форд адкрывае эру масавай вытворчасьці аўтамабіляў і "ставіць Амэрыку на колёсы".

**1914** – Адкрываецца Панамскі канал, пабудаваны Злучанымі Штатамі праз Цэнтральную Амэрыку. Ён дае магчымасьць караблям перапраўляцца з Атлянтычнага акіяну ў Ціхі, не агібаючы амэрыканскі кантынэнт на Поўдні.

**1917, 6 красавіка** – Злучаныя Штаты ўступаюць у Першую Сусьветную вайну пасьля парушэньня Нямеччынай амэрыканскага нэўтралітэту.

**1920** – 19-я папраўка да Канстытуцыі гарантуе жанчынам выбарчыя правы.

**1929, 29 кастрычніка** – Развал біржавага рынку ЗША абвяшчае пачатак Вялікай дэпрэсіі – падзеньня ўзроўню бізнэсовай актыўнасьці ў сьвеце, якое сталася найбольш цяжкім і працяглым пэрыядам масавага беспрацоўя і стагнацыі ў мінулым стагодзьдзі.

**1933** – Прэзыдэнт ЗША Франклін Д. Рузвэльт распачынае праграмы "Новага курсу", каб забясьпечыць працай людзей, узьняць цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю й стабілізаваць банкаўскую сыстэму.

**1934** – Закон аб рэарганізацыі жыцьця індзейцаў аднаўляе правы ўласнасьці на зямлю рэзэрвацыяў для плямёнаў карэнных жыхароў Амэрыкі.

**1935** – Кангрэс прымае Закон аб сацыяльнай абароне, які забясьпечвае страхавыя гарантыі старым і беспрацоўным, а таксама дапамогу бедным, дзецям і сьляпым.

**1941, 7 сьнежня** – Напад японцаў на Пірл-Харбар, Гаваі, вымушае ЗША прыняць удзел у Другой Сусьветнай вайне.

**1944, 6 чэрвеня** – Аб'яднаныя антыгітлераўскія сілы высаджваюцца на ўзьбярэжжы Нармандыі. Гэтая апэрацыя пад назвай "Дзі-Дэй" становіцца пачаткам вызваленьня Францыі ад нямецкай акупацыі.

**1945, 7 траўня** – Вайна ў Эўропе заканчваецца капітуляцыяй Нямеччыны.

* * – 26 чэрвеня ЗША і 49 іншых краінаў падпісваюць у Сан-Францыска, Каліфорнія, Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў.

* * – Злучаныя Штаты скідваюць атамную бомбу на Хірасіму й праз тры дні на Нагасакі.

* * – 2 верасьня капітулюе Японія, заканчваецца вайна на Ціхім акіяне.

**1949, 4 красавіка** – ЗША, Канада і 10 краінаў Заходняй Эўропы ствараюць Арганізацыю Паўночна-Атлянтычнага Альянсу для забесьпячэньня ўзаемнай ваеннай дапамогі ў выпадку нападу на аднаго з саюзнікаў.

**1950, 27 чэрвеня** – Злучаныя Штаты й іншыя сябры ААН накіроўваюць войскі й іншую ваенную дапамогу Рэспубліцы Карэя для абароны ад нападаў Карэйскай Народнай Рэспублікі.

**1951** – Электрычнасьць упершыню атрыманая з дапамогай ядравай энэргіі.

**1953, 27 ліпеня** – Пасьля перамоваў, што працягваліся год, падпісанае замірэньне з мэтай скончыць баёвыя дзеяньні ў Карэі.

**1954** – Вярхоўны Суд прымае пастанову па справе Браўн супраць Міністэрства асьветы, згодна зь якой расавая сэгрэгацыя ў дзяржаўных школах прызнаецца неканстытуцыйнай.

**1955, сьнежань** – У Мантгомэры, Алябама, пачынаецца байкот аўтобусаў, які працягнецца цэлы год на знак пратэсту супраць сэгрэгацыі ў гарадзкіх аўтобусах. Марцін Лютэр Кінг, малодшы, вызначаецца як лідэр руху за грамадзянскія правы.

**1958** – Злучаныя Штаты накіроўваюць на арбіту свой першы спутнік "Эксплорэр І".

**1959** – Аляска становіцца 49-м штатам ЗША, Гаваі – 50-м.

**1961, 5 траўня** – астранаўт Алан Б. Шэпард, малодшы, зьдзяйсьняе першы ў ЗША касьмічны палёт чалавека.

**1962, 20 лютага** – астранаўт Джон Г. Глен, малодшы, становіцца першым амэрыканцам, які абляцеў вакол Зямлі.

* * – у кастрычніку Савецкі Саюз выводзіць з Кубы наступальныя ракеты пасьля папярэджаньня Джона Ф. Кэнэдзі аб тым, што ўдар з выспы Куба па любой краіне Заходняга паўшар'я выкліча адпаведны адказ з боку ЗША.

**1963, 25 ліпеня** – Злучаныя Штаты, Вялікая Брытанія і Савецкі Саюз падпісваюць дамову аб абмежаваньні ядравых выпрабаваньняў, якая ўступае ў сілу 10 кастрычніка.

* * – 28 жніўня больш за 200 тысячаў чалавек бяруць удзел у шэсьці ў Вашынгтане, Акруга Калюмбія, у падтрымку праекта закону аб грамадзянскіх правах.

* * – 22 лістапада застрэлены прэзыдэнт Кэнэдзі.

**1964, 2 ліпеня** – прэзыдэнт Джонсан падпісвае Закон аб грамадзянскіх правах, які забараняе дыскрымінацыю ў грамадзкіх месцах паводле прыналежнасьці да расы ці па колеру скуры.

* * – 7 жніўня Кангрэс прымае Танкінскую рэзалюцыю, згодна зь якой пасьля нападу Паўночнага Віетнаму на два зьнішчальнікі ЗША былі дазволеныя баёвыя дзеяньні ў Віетнаме.

**1968, 4 красавіка** – Марцін Лютэр Кінг, малодшы, застрэлены ў Мэмфісе, Тэнэсі.

* * – 10 траўня пачынаюцца Парыскія мірныя перамовы па Віетнаму.

**1969, 20 ліпеня** – Астранаўты "Апола-11" Нэйл Армстранг і Эдзьвін Олдрын высаджваюцца на Луне.

**1972, 22 траўня** – Кіраўнікі ЗША і СССР падпісваюць першую Дамову аб скарачэньні стратэгічнага ўзбраеньня.

**1973, 27 студзеня** – У Парыжы падпісанае чатырохбаковае пагадненьне аб заканчэньні вайны ў Віетнаме.

**1974, 9 жніўня** – У выніку таемнага пранікненьня спэцслужбаў у штаб-кватэру Дэмакратычнай партыі ў гатэлі "Уотэргейт", прэзыдэнт Ніксан вымушаны пайсьці ў адстаўку. Тое быў першы падобны выпадак у гісторыі ЗША.

**1975, 17-19 траўня** – Амэрыканскі касьмічны карабель "Апола" і савецкі "Саюз" ажыцьцяўляюць стыкоўку ў космасе.

* * – 1 жніўня прэзыдэнт Форд падпісвае Заключны акт Канфэрэнцыі па бясьпецы й супрацоўніцтву ў Эўропе, вядомы як Заключны Хельсінскі Акт. Прадстаўнікі 35 краінаў сьвету заявілі аб павазе да сувэрэнітэту і аб сваім намеры супрацоўнічаць у галіне правоў чалавека.

* * – 20 ліпеня і 3 верасьня аўтаматычныя касьмічныя апараты "Вікінг І" і "Вікінг ІІ" ажыцьцяўляюць пасьпяховае прызямленьне на Марсе.



# ЗША. АДУКАЦЫЯ

**Выдаткі на школу (1993):**
$262,5 мільярды на пачатковую й сярэднюю школу
$175,4 мільярды на каледжы й унівэрсытэты

**Колькасьць навучэнцаў** – 65.400.000
Дзіцячыя яслі й сады – 11%
Пачатковая школа – 47%
Сярэдняя школа – 21%
Каледжы й унівэрсытэты – 21%

**Колькасьць навучэнцаў (1994):**
55.754.000 у дзяржаўных школах
8.765.000 у прыватных школах

**Адсотак школ, аснашчаных кампутарамі:** 97,5%

**Колькасьць выпускнікоў сярэдніх школаў, якія паступілі ў каледжы (1992):** 61,7%

**Атрымана дыплёмаў (1993):**
Бакаляўра – 1.145.000
Магістра – 364.000
Доктара – 42.000
Аб няпоўнай вышэйшай адукацыі – 497.000

**Навучаньне замежных студэнтаў (1994):**
Усяго – 449.000
з Азіі – 294.000
з Лацінскай Амэрыкі – 45.000
з Паўночнай Амэрыкі – 23.000
з Афрыкі – 21.000
з Акіяніі – 4.000

**Сярэдні гадавы кошт навучаньня з пражываньнем у кампусе (1993-94):**
$8.562 у дзяржаўным каледжы
$17.846 у прыватным каледжы.



# ЗША. ГЕАГРАФІЯ

**Злучаныя Штаты Амэрыкі ёсьць чацьвертай па велічыні краінай у сьвеце пасьля Расеі, Канады і Кітая.**

**Плошча:** 9.628.382 кв. km

Для параўнаньня: тэрыторыя ЗША роўная прыблізна палове тэрыторыі Расеі, палове тэрыторыі Паўднёвай Амэрыкі, двум з паловай тэрыторыям Заходняй Эўропы.

**Выкарыстаньне земляў (1992г.):**
25,8% пад сельскагаспадарчымі культурамі
26,9% запаведных земляў
26,6% лясоў
8,5% пашы
12,2% – гарады, горы й інш.

**Берагавая лінія:** 19.929 km, з улікам Аляскі і Гаваяў.

**Унутраныя водныя шляхі:** 41.009 km суднаходных каналаў без уліку Вялікіх азёраў.

**Самая доўгая рака:** Місісіпі-Місуры – 5.936 km.

**Самае глыбокае возера:** Крэтэр-лэйк у Арэгоне – 580 m

**Вышэйшая кропка:** гара Маккінльі на Алясцы – 6.198 m вышэй за ўзровень мора.

**Ніжэйшая кропка:** Дол Сьмерці ў Каліфорніі – 86 km ніжэй за ўзровень мора.

**Самы вялікі штат:** Аляска.

**Самы малы штат:** Род-Айлэнд.

**Самы паўночны горад:** Бароў, Аляска.

**Самы паўднёвы горад:** Хіло, Гаваі.

**Самы ўсходні горад:** Істпорт, Мэн.

**Самы заходні горад:** Атка, Аляска.

**Клімат:**
Галоўным чынам памяркоўна-кантынэнтальны.
Трапікальны на Гаваях і ўва Флёрыдзе.
Арктычны на Алясцы.
Паўзасушлівы на Вялікіх раўнінах на захадзе ад ракі Місісіпі.
Засушлівы ў Вялікім Басэйне на паўдзённым захадзе.

## Заўвага ад "ТМ"

*Асноўныя статыстычныя дадзеныя пра тое, якой ёсьць Амэрыка, пададзеныя на 3-й стар., датаваныя 1995 годам. У гэтай самай дынамічнай у сьвеце краіне некаторыя паказчыкі жыцьця зьмяняюцца ў станоўчы бок настолькі імкліва, што за імі не заўсёды пасьпяваюць цэлыя статыстычныя ўстановы і арганізацыі. І яшчэ адно – мы сьвядома не скарысталіся паказчыкамі такіх разьдзелаў статыстыкі, як* ***эканоміка і траспарт.*** *Апошняя тэма закранае тое, што здарылася на паветраным траспарце – гаварыць пра яго на разьвіцьцё на гэтым фоне, па меншай меры, нетактоўна. Эканамічныя ж дадзеныя – хоць бы й самыя асноўныя – занялі б усё газэтную прастору. Возьмем зь іх такі паказчык: у 95-ым годзе валавы нацыянальны прадукт (агульны кошт тавараў і паслугаў, якія выраблены ў краіне) склаў – 6,7 трыл. даляраў ЗША.*

# ЗША. УРАД

**Афіцыйная назва:** Злучаныя Штаты Амэрыкі

**Сталіца:** Вашынгтан, А.К. (Акруга Калюмбія)

**Мова:** ангельская

**Дзяржаўны Гімн:** "Зорны сьцяг"

**Дзяржаўны Сьцяг:** Палотнішча складаецца з 13 гарызантальных палосаў (7 чырвоных і 6 белых) і зь сіняга простравугольніка з 50-цю белымі пяціканцовымі зоркамі ў верхнім левым вугле.

**Дэвіз:** "Мы верым у Бога"

**Грашовая адзінка:** даляр ЗША

**Сыстэма мераў і вагаў:** традыцыйная сыстэма ЗША і міжнародная (мэтрычная) сыстэма.

**Прававая сыстэма:** заснаваная на падмурку ангельскай сыстэмы агульнага права; двухузроўневая судовая сыстэма – фэдэральныя суды і суды штатаў; Канстытуцыя прынятая ў 1787г.; судовы перагляд заканадаўчых актаў.

**Галіны ўлады:**
Выканаўчая – Прэзыдэнт, віцэ-прэзыдэнт, фэдэральныя дэпартамэнты й агенцыі.
Заканадаўчая – Сэнат у складзе 100 сябраў, па два ад кожнага штату; Палата прадстаўнікоў у складзе 435 сябраў, якія выбіраюцца прапарцыянальна колькасьці насельніцтва штатаў.
Судовая – Вярхоўны Суд у складзе 9 сябраў, якія прызначаюцца пажыцьцёва Прэзыдэнтам са згоды Сэнату; сыстэма фэдэральных судоў.

**Выбары:**
Фэдэральныя выбары праводзяцца ў першы аўторак пасьля першага панядзелка лістападу кожнага цотнага году.
Прэзыдэнцкія выбары праводзяцца кожныя чатыры гады.
Сябры Сэнату выбіраюцца на шасьцігадовы тэрмін, а сябры Палаты прадстаўнікоў – на два гады.

**Палітычныя партыі:**
Рэспубліканская і Дэмакратычная – дзьве галоўныя партыі краіны; існуюць таксама іншыя партыі й групы.

**Выбарчае Права:**
Усе грамадзяне ва ўзросьце ад 18 год маюць права голасу безь якога-небудзь прымусу.

**Апарат кіраваньня (1995):**
Грамадзянскі пэрсанал: 2.939.000.
Кадравыя вайскоўцы: 1.585.000

**Палітычныя структуры:**
50 штатаў; Акруга Калюмбія; Садружнасьць Пуэрта Рыка; Садружнасьць Паўночных Марыянскіх выспаў; Гуам; Віргінскія выспы; Амэрыканскае Самаа.



# ЗША. НАСЕЛЬНІЦТВА

**Усяго насельніцтва (1995):** 261.638.000
Мужчыны: 48,8%
Жанчыны: 51,2%

**Шчыльнасьць:** 27,2 чалавекі на кв. km

**Разьмеркаваньне:**
80% – гарадское
20% – вясковае

**Прырост штогод:** 1,0%

**Сярэдні ўзрост:** 34,0 гады

**Колькасьць домаўладаньняў (1994г.):** 97.100.000

**Колькасьць чалавек на адно домаўладаньне:** 2,67

**Колькасьць чалавек на адну сям'ю:** 3,26

**Верагоднасьць працягласьці жыцьця амэрыканцаў, што нарадзіліся ў 1995г.:**
Белыя мужчыны – 73,3
Белыя жанчыны – 80,3
Каляровыя мужчыны – 68,2
Каляровыя жанчыны – 76,8

**Узроўні нараджальнасьці й сьмяротнасьці (1995г.):**
Нараджальнасьць – 15,7 на 1.000 чалавек
Сьмяротнасьць – 8,8 на 1.000 чалавек
Дзіцячая сьмяротнасьць – 8,3 на 1.000 нованароджаных

**Узрост насельніцтва:**
26,2% – да 18-ці
41,5% – ад 18-ці да 44
19,5% – ад 45-ці да 64
12,8% – старэй за 65

**Расавы склад:**
Белыя – 82,9%
Чорныя – 12,6%
Жыхары гішпанскага паходжаньня – 10,1%
Азіяты й жыхары выспаў на Ціхім акіяне – 3,7%
Амэрыканскія індзейцы, эскімосы, алеуты – 0,8%
(Заўвага: жыхары гішпанскага паходжаньня могуць належаць да любой расы).

**Насельніцтва буйнейшых гарадоў (1994):**
Нью-Ёрк, Нью-Ёрк – 19.670.000 (1992)
Лас-Энджэлес, Каліфорнія – 15.302.000
Чыкага, Ілінойс – 8.527.000
Сан-Францыска, Каліфорнія – 6.513.000
Філядэльфія, Пэнсільванія – 5.957.000

**Ахова здароўя (1993):**
84,7% насельніцтва ахоплена прыватным і дзяржаўным мэдычным страхаваньнем
256 лекараў на 100.000 чалавек
6.580 шпіталяў
4,6 ложкаў на 1.000 чалавек

**Веравызнаньне (1993):**
Пратэстанты – 56%
Каталікі – 26%
Іудзеі – 2%
Мусульмане – 2%
Іншыя – 5%
Атэісты – 9%

**Імігранты:**
720.461 чалавек атрымалі права на жыхарства ў 1995г.

**Наведвальнікі ЗША:**
45.400.000 чалавек з розных краінаў сьвету ў 1994г.



# ЗША. НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СЬВЯТЫ

**1 Студзеня** – Новы Год.

**Студзень, Трэці Панядзелак** – Дзень нараджэньня Марціна Лютэра Кінга, малодшага (дакладная дата: 15 студзеня).

**Люты, Трэці Панядзелак** – Дзень Прэзыдэнтаў (дзень нараджэньня Джорджа Вашынгтана 22 лютага; дзень нараджэньня Аўраама Лінкольна 12 лютага).

**Травень, Чацьверты Панядзелак** – Дзень Памяці амэрыканскіх салдат, якія загінулі ў баёх.

**4 Ліпеня** – Дзень Незалежнасьці.

**Верасень, Трэці Панядзелак** – Дзень Працы.

**Кастрычнік, Другі Панядзелак** – Дзень Калюмба.

**11 Лістапада** – Дзень Вэтэранаў усіх войнаў з удзелам ЗША.

**Лістапад, Чацьверты Чацьвер** – Дзень Падзякі.

**25 Сьнежня** – Каляды.

ВЫБАРЧЫ РОЗГАЛАС

# ... НІЧОГА ПАКУЛЬ НЯ ЗДАРЫЛАСЯ

(Заканчэньне. Пачатак на 1-й стар.)

Неверагодны выпадак адбыўся ў Клімавіцкім раёне: старшыня райвыканкаму ў сваім адміністратыўным будынку на вачах людзей зьбіў раённага каардынатара незалежнага назіраньня. Ахвяра зьбіцьця ня мог у райцэнтры атрымаць мэдычную даведку аб траўмах, за чым давялося яму ехаць у іншы раён. Пацярпелы й мы маем цьвёрды намер давесьці гэтую справу да суда і прыцягнуць да яе рэспубліканскую і міжнародную ўвагу.

**Аляксей Колчын, старшыня абласнога штабу Грамадзянскай ініцыятывы "Незалежнае назіраньне":**

– Гэтым разам умовы, у якіх даводзілася працаваць, былі фактычна ўмовамі рэпрэсіяў і маральнага тэрору. Такога не было раней. Былі, як ужо сказана, шматлікія выпадкі затрыманьняў, перасьледу, службовага ўціску, нават – арыштаў і завядзеньня крымінальных справаў. У часе выбараў многія грамадзкія арганізацыі, датычныя выбарчага працэсу, штабныя офісы Ганчарыка паспыталі прамыя напады з боку праваахоўчых органаў альбо "неўстаноўленых асобаў", у выніку якіх былі пазбаўленыя аргтэхнікі й іншай маёмасьці. Найбольшы непакой выклікаюць у нашых назіральнікаў афіцыйна абвешчаныя вынікі датэрміновага галасаваньня ды наогул сама гэтая прымусовая працэдура. Асаблівы ціск быў ужыты на жыхароў навучальных і вытворчых інтэрнатаў, дзе дамагліся практычна 100-адсоткавага ўдзелу ў ім. Пры гэтым намі зафіксавана ня менш 10-ці выпадкаў падмены "датэрміновых" скрыняў. Масавыя парушэньні заканадаўства адбыліся ў момант канчатковага падліку бюлетэняў. Нарэшце, паўсюль нам адмаўлялі ў прадастаўленьні інфармацыі, што сьведчыць аб тым, што ўлада не зьвяртала ўвагі на тое, каб забясьпечыць, як таго патрабуе закон, празрыстасьць, адкрытасьць і дэмакратычнасьць выбарчага працэсу. Гэта ж сталася прычынай таго, што ў нас, як і па ўсёй краіне, не ўдалося спраўдзіць так званы паралельны падлік галасоў, што ўжываецца ў цывілізаваных краінах.

**Сяргей Абадоўскі, юрыдычны кансультант абласной Рады незалежнага назіраньня:**

– Я перакананы і гатовы адстойваць сваё меркаваньне на любым судзе, што выбары ў нашай вобласьці немагчыма прызнаць легітымнымі. Я чакаю за гэтыя свае словы выкліку ў суд ад кіраўніка вобласьці любога рангу. Буду лічыць, калі такога іску не атрымаю, што кіраўніцтва вобласьці згоднае з гэтым маім сьцьверджаньнем. Я ня буду стамляць на гэтай сустрэчы журналістаў пералікам дадатковых да ўжо абвешчаных выбарчых фактаў, якія сьведчаць пра парушэньні заканадаўства. Скажу толькі, як юрыст найперш, што мы ў гэтыя выбары, з самога моманту іхняга абвешчаньня, сталіся сьведкамі адкрытага парушэньня з боку структураў нашай выканаўчай улады Канстытуцыі, Выбарчага кодэксу, Закону "Аб друку й іншых сродках масавай інфармацыі", не гаворачы пра міжнародныя дамоўленасьці і дадзеныя нашай краінай эўрапейскім дэмакратычным структурам абяцаньні. Мы, зразумела, ня маем намеру абмежавацца гэтай прэсавай канфэрэнцыяй і здаць матэрыялы, якія маем, у "архіў гісторыі". Мы будзем дамагацца законнымі спосабамі рэагаваньня на парушэньні законаў, пакараньня асобаў, якія гэта дапусьцілі.

...Усе выступоўцы на сустрэчы з журналістамі асобна і шматразова падкрэсьлівалі, што назіральнікі нідзе й ніякім чынам не дэманстравалі свайго асабістага стаўленьня да таго ці іншага кандыдата на прэзыдэнта. Яны не былі падчас сваёй грамадзкай працы на выбарчых участках і ў дачыненьнях з выбарчымі камісіямі ўсіх узроўняў ані "за", ані "супраць" каго б там ні было. Іх не цікавіла тая ці іншая пэрсанальная асоба, за якую аддавалі свае галасы выбаршчыкі. Яны назіралі працэс...

*Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК у пытаньнях палітыкі*

## Усё ж дасталі...

У ноч на 10-е, недзе пасьля 2-й гадзіны, нейкія "невядомыя" усё ж абрабавалі абласны штаб Ганчарыка, у які за некалькі дзён да таго ня здолелі патрапіць, бо штабісты і праваабаронцы адстаялі офіс. Гэтым разам пасьлявыбарчай раніцай штабісты засьпелі пусты кабінэт, адкуль былі вынесеныя і зьніклі ў невядомым напрамку кампутар, прынтар, дакумэнты і два дзелавых прыватных кейса. Старшыня штабу Надзея Гарохава зьвярнулася ў міліцыю. Сёньня, на дзень выхаду газэты, сышчыкі яшчэ не знайшлі скрадзеныя рэчы.

*Сымон ГЛАЗШТЭЙН*

## Ганчарык змагаецца

Абвешчаны другім па выніках прэзыдэнцкіх выбараў, Уладзімер Ганчарык адмовіўся прызнаць паразу і накіраваў у Цэнтарвыбаркам адпаведную скаргу. "Факты, якія маюцца ў маім распараджэньні, – гаворыцца ў скарзе – сьведчаць аб тым, што прэзыдэнцкія выбары павінны быць прызнаныя несапраўднымі".

Дакумэнт утрымлівае больш за 30 старонак тэксту з падрабязным і абгрунтаваным пералічэньнем фактаў парушэньняў заканадаўства і міжнародных стандартаў ня толькі ў дзень выбараў, а на працягу ўсёй кампаніі з дня іх абвешчаньня. Дэталёва падаецца ў скарзе задзейнічаньне ўсяго дзяржаўнага апарату і дзяржаўных СМІ на забесьпячэньне перавыбраньня Лукашэнкі. Асобны разьдзел дакумэнта прысьвечаны парушэньням, якія былі дапушчаныя падчас датэрміновага галасаваньня.

Наступны крок У.Ганчарыка, калі рашэньне Цэнтарвыбаркама па ягонай скарзе не задаволіць яго, – зварот у Вярхоўны суд.

*Паводле інфармацыі штабу Ў.Ганчарыка*

# Два суды і тры пратакола

7 верасьня 2001г. карэспандэнт "ТМ" Уладзімер Краўчанка, які ёсьць старшынём Рады магілёўскага аддзяленьня Беларускага Хельсінскага Камітэту, знаходзіўся ў Слаўгарадзе, дзе выконваў як свае праваабарончыя задачы па назіраньні за хадой датэрміновага галасаваньня, так і рэдакцыйнае заданьне на гэтую ж тэму. Пошук інфармацыі прывёў яго ў Сьвенскую СШ, дзе месьціўся выбарчы ўчастак №13. Уладзімер Краўчанка засьпеў тут мясцовых назіральнікаў, якія й паведамілі яму аб зафіксаваных да таго часу парушэньнях.

Па-першае, урны для датэрміновага галасаваньня былі апячатаныя... плястылінам. Асобна трэба заўважыць, што пячатка па ўсіх выбарчых участках раёну была адна й тая ж. Да таго ж, яна мела мноства пашкоджаньняў: ці то скрыню ўжо неаднойчы адкрывалі, ці то перасоўвалі яе ня вельмі ахайна. Таксама назіральнікі паведамілі, што любая інфармацыя, датычная сьпісаў для галасаваньня і колькасьці тых, хто ўжо прагаласаваў, руплва хаваецца ад іх.

Па-другое, дырэктар школы і старшыня ўчастковай выбарчай камісіі М.Чумакоў па распараджэньні старшыні раённай выбарчай камісіі Бяловай В.М. дапусьціў на ўчастку факт агітацыі на карысьць аднаго з кандыдатаў ва ўрон іншым. Гэта праявілася ў тым, што М.Чумакоў атрымаў ад В.Бяловай агітацыйныя плякаты кандыдата Лукашэнкі, якія й разьвесіў на бачных месцах у школе, а таксама – у памяшканьні для датэрміновага галасаваньня.

Іншае распараджэньне ад Бяловай тычылася адносінаў з журналістамі і незалежнымі назіральнікамі. Дырэктар нават паказаў У.Краўчанку тэкст тэлефанаграмы на гэты конт. Вось ён на мове арыгіналу: **"Председателям участковых комиссий. Обращаем ваше внимание на то, что информация о технических результатах досрочного голосования и в день выборов Президента РБ по Избирательному участку предоставляется только представителям участковой комиссии в установленное время и по указанному телефону, а не в ответ на чей-то запрос, который может быть ложным или провокационный. Предоставление информации вне этого регламента не допустимо. Председатель участковой избирательной комиссии Белова".**

Між тым, далей вакол У.Краўчанкі распачаўся сапраўдны дэтэктыў. У школу прыехаў начальнік Слаўгарадзкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі А.Балдышэўскі разам з палкоўнікам міліцыі М.Лахмышкіным. Яны паведамілі нашаму карэспандэнту, што затрымліваюць яго і забіраюць з сабой у пастарунак. Міліцэйскія начальнікі паведамілі таксама Ў.Краўчанку аб тым, што ён "ня мае права зьбіраць, атрымоўваць і распаўсюджваць інфармацыю аб працы выбарчага ўчастку №13". У пастарунку на праваабаронцу склалі пратакол затрыманьня, а таксама адабралі пашпарт, дыктафон і рэдакцыйнае пасьведчаньне.

Тым часам запрацаваў тэлефон і факсавы апарат у рэдакцыі "Тыднёвіка". Ветлівыя суразмоўнікі з Слаўгарадзкай міліцыі дапытваліся ў рэдактара: **а хто такія вы ёсьць, і ці ёсьць вы афіцыйна?** Зь перасланага па факсе запыту адчувалася, што міліцыя была заклапочаная ці ня блізкім раскрыцьцём нейкага "варожага гнязда" пад выглядам – а хто іх ведае?! – магчыма й падпольнага выданьня.

Праз тры гадзіны ад пазбаўленьня яго свабоды Ў.Краўчанку (хацелі нават зьвязаць, але потым ня сталі) перавезьлі ў будынак райвыканкаму. Там юрыст (!) А.Гаўрыленка склаў на Ў.Краўчанку цэлых два пратаколы аб адміністратыўным парушэньні. Практычна тое адбывалася пад наглядам, а магчыма, па распараджэньні раённага начальства, якое сабралася ў будынку на сваё паседжаньне, і зь якім юрыст і начальнік міліцыі ўвесь час кантактавалі. Былі там старшыня райвыканкаму Бераставў, старшыня раённага савету Календарова, старшыня раённай выбарчай камісіі Бялова.

Паводле пратаколу, што склаў А.Гаўрыленка, грамадзянін У.Краўчанка быў вінаваты ў тым, што хацеў атрымаць інфармацыю аб хадзе датэрміновага галасаваньня. Яшчэ выканкамаўскі юрыст паабяцаў незаконна затрыманаму чалавеку ў хуткім часе даставіць яго ў мясцовы суд, дзе ня будуць марудзіць з агучваньнем абвінаваўчага выроку.

***Трэба асобна заўважыць, што ніводзін з супрацоўнікаў міліцыі й выканкаму ніяк не рэагаваў на неаднаразовыя заявы Ў.Краўчанкі аб незаконнасьці ягонага затрыманьня й аб тым, што яны перашкаджаюць якраз законнай дзейнасьці прадстаўніка грамадзкага аб'яднаньня, у дадзеным выпадку – БХК.*** Да тае пары, пакуль усё кіраўніцтва выканкаму не разыйшлося па хатах, У.Краўчанку забаранялі рухацца. Ён выйшаў на волю толькі ўвечары, больш чым праз восем гадзінаў з таго моманту, калі быў затрыманы.

Для парадку пералічым усе тыя артыкулы, патрабаваньні якіх былі парушаныя ў дадзеным выпадку. Гэта артыкулы 13, 21 і 37 Выбарчага кодэксу РБ; артыкулы 39 і 48 Закону "Аб друку й іншых сродках масавай інфармацыі"; артыкул 34 Канстытуцыі РБ; артыкулы 194 і 397 Крымінальнага кодэксу РБ; частка 5 артыкулу 172-1 Адміністратыўнага кодэксу.

Назаўтра, 8-га верасьня, Уладзімер Краўчанка па ўласнай ініцыятыве прыбыў у Слаўгарадзкі раённы суд, каб даказаць сваю невінаватасьць і, адпаведна, вінаватасьць канкрэтных адказных асобаў. Падчас паседжаньня былі выкліканыя сьведкі, што ў часе затрыманьня праваабаронцы знаходзіліся ў Сьвенскай школе, якія пацьвердзілі шчырасьць Уладзімера. Суд пастанавіў спыніць вытворчасьць у справе, паколькі ў дзеяньнях сп.Краўчанкі адсутнічаў склад праваапарушэньня. Але і гэтым разам то ня быў канец гісторыі.

Ужо 9-га верасьня, у самы дзень выбараў, У.Краўчанка, разам зь іншымі назіральнікамі, зьвярнуўся да старшыні раённай выбарчай камісіі Бяловай з просьбай растлумачыць яму, чаму на выбарчых участках раёну адбываюцца – былі названыя факты – парушэньні заканадаўства. І атрымаў адказ Веры Мацьвееўны (наш карэспандэнт паручыўся за дакладнасьць яе словаў): ***за ўсе парушэньні адказваю асабіста я, і робяцца яны па майму асабістаму ўказаньню.***

Наступным крокам групы назіральнікаў стаўся паход у мясцовую пракуратуру з мэтаю падачы адпаведнай заявы. Але пракурор Андрэйчыкаў катэгарычна адмовіўся яе прымаць, суправаджаючы сваю адмову лаянкай і пагрозамі.

Пазьней, у гэты ж дзень, аўтамабіль, у якім знаходзіліся назіральнікі ўключна з У.Краўчанкам, спынілі міліцыянты й прымусілі паехаць да іх у РАУС. Там, акрамя начальніка Балдышэўскага, быў і пракурор Андрэйчыкаў. Іхняю мэтаю было канфіскаваць журналісцкі дыктафон з касэтамі, аднак знайсьці "небясьпечную" прыладу ім не ўдалося. Затое, каб не адпускаць людзей "дарма", было прыдумана канфіскаваць у іх шэраг рабочых дакумэнтаў. У выніку на Ў.Краўчанку быў складзены ўжо трэці пратакол за тры дні.

І вось, нарэшце, 10-га, калі ўсе мы "прачнуліся ў новай краіне", у Слаўгарадзе адбыўся другі суд, які зноў, як і першым разам, пацьвердзіў невінаватасьць нашага карэспандэнта і праваабаронцы Уладзімера Краўчанкі. Фармулёўка была прынятая аналягічная: няма ў ягоных дзеяньнях складу парушэньня.

Зразумела, што па ўсёй гэтай гісторыі наш карэспандэнт накіраваў пракурору вобласьці Дудкіну адпаведны дакумэнт з патрабаваньнем правесьці праверку й прыняць меры пракурорскага рэагаваньня. Ці будуць яны?..

*Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК прававых праблемаў*

Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.
Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 11. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 13.09.2001 г. а 17.05.